Ды стала маліцца.
Нараілі добры людзі,
Каб зелле прымала
Ды з жанатым маскалікам
Больш я ні гуляла.
Піла зелле, выпівала,
Кінула гуляці.
Горо-ж мае вялікае,
Трэба гараваці!
Бацька з маткай паумiралі,
Ні стало нікога;
Умiралі — праклінаюлі,—
Горка мне, нябога!
Стала плакаць, сьлязьмі мыцца,
Горш яшчэ нудзіцца;
Стала думаць, разважаці,
Каб Богу маліцца.
Горы мае высокія,
Воды глыбокія!
Дзе мне цяпер падзецiся,
Як на сьвеці жыці?
Айца-маткі ні слухала,—
Дурны розум мела;
Пана Бога угнявіла,
Жыці мне дадзело!
Яшчэ сонцо ні заходзіць,
Спаці валажуся,
Як успомню сваё горо,
Сьлязьмі уся вальюся!

**Марка Лішукевіч.**



# КРОНІКА.

**Беларускі Народны Унівэрсітэт у Маскве.** Культурна-прасьветны аддзел пры Беларускім Нацыянальным Камісарыяце у Маскве разаслаў да ўсіх культурна-прасьветных і настаўніцкіх арганізацый апавешчэнне аб тым, што ў Маскве адчынаецца на лето 1918 г. беларускі Народны унівэрсітэт. Кожная с памянёных арганізацый, адтрымаўшая апавешчэнне, мае права паслаць двух сваіх сябрукоў на слуханне лекцый. Летні сэмэстр працягнецца два месяцы, с 1-го ліпня да 1-го верасьня.

Лекцыі будуць чытацца па гэтакім пытанням: 1] Беларусазнаўство [мова і літэратура, гісторыя, географія і этнографія, народная гаспадарка, нацыянальна-рэвалюц. рух і інш.]; 2] Соцыяльна-палітычнае пытанне (дзяржава і яе кшталты, гісторыя народнай гаспадаркі, зямельнае пытанне, рабочае пытанне, нацыянальнае пытанне, гісторыя рэвалюцыйнаго руху на Заходзе і Расіі, гісторыя соцыялізму); 3] Агульна-педагогічнае пытанне (гісторыя прасьветы на Заходзе і ў Расіі, зашкольная, або хатняя, прасьвета, дашкольнае выхаванне, працоўная школа); 4] Натуразнаўство (філозофія натуразнаўство, асновы астраноміі, геольогіі, біольогіі і інш.).

На курсы прымаюцца настаўнікі і настаўніцы пачатковых і сярэдніх школаў на Беларусі, прэдстаўнікі ад прасветных аддзелаў радаў раб. і селянскіх дэпутатаў, сябрукі беларускіх культурна-прасьветных гурткоў і усе тыя, хто цікавіцца беларускай народнасьцю і яе культурай.

Чытанне лекцый будзе адбывацца штодзенна у вечар ні меньш, як 4-ы гадзіны у дзень. Лекцыі—дарэмныя. Прыездным слухачом: настаўнікам, настаўніцам і дэлегатам ад культурна-прасьветных арганізацый будзе дано дармавое памешканне (на 100 асоб), а бяднейшым, маючым адпаведныя пасьвядчэнні, —матэрыяльнае падтрыманне і зьвернуты кошты за праезд.

Запісывацца на лекцыі можна па почці, па тэлеграфу і прыходзячы наўмысьля у адрэс: Поварская, 52. Культурна-прасьветны аддзел.

Перадрукаваўшы гэтае апавешчэнне, «Беларускі Шлях» дадае ад сябе: «Вітаючы адчыненне беларускаго народнаго унівэрсітэту, мы, аднак, моцна вонтпім, ці знойдуцца адпаведныя беларускія лектары у Маскве для такой шырокай праграмы. А другое, нам здаецца, што Масква цяпер саўсім ніадпаведнае мейсцо для навукі. Наўрад большэвікі дадуць спакойна займацца тамака навукаю; каб ні зрабілі яны націску на нашых «нацыянальных камісараў» ды ні уціснулі туды сваё разьеднаючай палітыкі.»

**Аб паварот культурных цэннасьцей.** Прэзыдыум Беларускае Рады у Вільні, даведаўшыся, што у Расіі па загаду рады адбываецца ліквідацыя эвакуованых з Беларусі школ і культурна-прасьветных установ, упаўнамочыў Гродзенскі Губэрскі Цэнтральны Камітэт злучаных грамадзянскіх арганізацый учыніць патрэбныя крокі перад расійскімі і нямецкімі уласьцямі дзеля паваротy памянутых установ на Беларусь і аднаўлення тут іх чыннасьцей, а так жа ўзяць на сябе ахрану і рээвакуацыю ўсіх вывезеных з нашаго краю культурных цэннасьцей, гістарычных памятнікаў, музэяў, архіваў і дакумэнтаў, устанаўліваючых правы Беларускаго насялення і датыкаючых матэрыяльных інтарэсаў яго.

**Кніжная нямецкая выстаука.** Кніжная нямецкая выстаўка, уладжаная палявой нямецкай кнігарняй у мейсцовым меськім тэатры, прадоўжыцца да 15-го ліпня. Яна зацікавіла шырокія колы грамадзянства.

Выстаўка адчынена штодня ад 11 гадзін рання да 7-і вечара. Апрач таго, яна будзе адчынена у часі спэктакляў нямецкай опэрэтты, катора прыедзе у Менск посьля 1-го ліпеня.

**Драматург Ф. Алехновіч у Менску.** У Менск пеша прышоў з Вільні вядомы беларускі драматург Ф. Алехновіч, аўтар сцэнічных твораў: «Каліс», «На Антакалі», «Базылішк», «Манька», «Бутрым Няміра», «На вёсцы» і інш..

Ф. Алехновіч прагасьцеваў у Менску колькі дзен ды зноў пеша вярнуўся да Вільні. У віленскай часопісі друкуюцца яго дописы з дарогі.

**Беларускі консул у Маскве.** У Маскоўскіх газэтах надрукована, што Народным Сэкрэтарыятам Беларусі А. Л. Бурбіс назначаны консулам у Маскве. Новаму консулу надаюцца усе правы. патрэбныя пры зносінах Беларускаго ураду з Вялікарусьсю.

Апрач консульства ў Маскве, устанаўляюцца беларускія консульства яшчэ у Петраградзі, Дзьвінску, Арле, Калузі, Харкаві і у Аршаві.



Рэдактар Я. Лёсік.



Выдавец: «Т-во Беларускай Культ…